# НАШ МАГІЛЁЎ

http://gazetanm.eu
№66

Незалежнае грамадска-палітычнае выданне горада. 22 сакавіка 2014 г.

# БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІЦЫ – 96 ГОД!

25 сакавіка 1918 года ў Менску Рада Беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла Беларусь незалежнаю дзяржаваю.




З'яўленне БНР, дзейнасць Рады Рэспублікі, змусілі бальшавікоў звярнуць увагу на беларускае пытанне і даць магчымасць беларусам стварыць сваю дзяржаву, хай сабе і пад прыглядам Масквы.

У самы апошні дзень 1918 г. у Смаленску быў створаны Часовы рабоча-сялянскі савецкі ўрад Беларусі, а 1 студзеня (фактычна 2-га) 1919 г. быў выдадзены Маніфест гэтага ўрада, якім абвяшчалася, што рабочыя, сялянская бедната і чырвонаармейцы Беларусі "ад сягонняшняга дня" становяцца "вольнымі і паўнапраўнымі гаспадарамі вольнай незалежнай Беларускай Сацыялістычнай Рэспублікі".




У гэтым Маніфесце нічога не гаварылася пра тэрыторыю краіны, яе сталіцу. Нават не была зафіксавана афіцыйная назва новай Рэспублікі.

Афіцыйная назва – Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка Беларусі – была дадзена нашай краіне на пачатку лютага 1919 г. Тады Усебеларускі з'езд Саветаў, які складаўся амаль на 100 працэнтаў з бальшавікоў, прыняў Канстытуцыю ССРБ. Адначасна той самы з'езд пад ціскам Масквы прыняў рашэнне аб ліквідацыі новага дзяржаўнага ўтварэння і зліцці ССРБ з Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікай Літвы.

27 лютага 1919 г. першая БССР перастала існаваць. Паўторна беларуская савецкая дзяржаўнасць была абвешчана 31 ліпеня 1920 г. Тады была выдадзена Дэкларацыя аб абвяшчэнні незалежнасці Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь. Менавіта гэтая ССРБ (з 1927 года БССР) стала непасрэднай папярэдніцай сучаснай Рэспублікі Беларусь.

Беларуская Народная Рэспубліка з'яўляецца найцікавейшай старонкай у гісторыі Беларусі. Менавіта ад яе варта лічыць нараджэнне новай краіны. Карані БНР трэба шукаць у Полацкай, Тураўскай ды іншых дзяржавах на тэрыторыі нашай краіны, у Вялікім Княстве Літоўскім, а не ў барацьбе з нямецкімі акупантамі савецкіх партызан падчас нямецка-савецкай вайны 1941 – 1945 гг.

Тэрыторыя БНР вызначалася паводле моўнага чынніка. Там, дзе размаўлялі на беларускай мове, тая тэрыторыя і лічылася беларускай зямлёй. На карце БНР можна знайсці згубленыя на цяперашні час беларускія гарады Вільню, Беласток, Двінск (Даўгаўпілс), Смаленск і Бранск.

Тут варта адзначыць, што праз два тыдні пасля абвяшчэння Беларусі савецкай рэспублікай – 16 студзеня 1919 г. – Масква забрала са складу нашай краіны віцебскія, магілёўскія і смаленскія землі. Трапілі ў склад Расіі і ўсходнія ўскраіны Мінскай губерні. Значная частка гэтых тэрыторый так і не была вернута Беларусі.

Беларусь разам з Чэхаславакіяй – гэта дзве краіны-пераможцы ў Другой сусветнай вайне, якія панеслі тэрытарыяльныя страты. Масква яшчэ ў 1939–1940 гг. "падарыла" Літве значную частку Віленшчыны, а ў канцы вайны аддала Польшчы Беласточчыну.

БНР – гэта тое дзяржаўнае ўтварэнне, роля і значэнне якога дагэтуль замоўчваецца ўладай. (Што праўда, даследаваць гісторыю БНР і пісаць пра БНР цяпер не забаронена.)

Менавіта 25 сакавіка, у дзень абвяшчэння незалежнасці БНР, тысячы беларусаў з бел-чырвона-белымі сцягамі выходзяць на мітынгі, ладзяць дзясяткі і сотні мерапрыемстваў у розных гарадах Беларусі, каб адзначыць гэтую слаўную дату ў гісторыі нашай краіны.

25 сакавіка – гэта Дзень Волі ўсяго беларускага народа.

Жыве Беларусь!

# АНТОН ЛУЦКЕВІЧ - БАЦЬКА БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЦІ

**Асобу Антона Луцкевіча і яго ўклад у развіццё беларускага нацыянальнага руху можна параўнаць з укладам у станаўленне украінскай дзяржаўнасці Міхайлы Грушэўскага. Ідэі Антона Луцкевіча, у тым ліку аб утварэнні Балта-Чарнаморскага саюзу незалежных дзяржаваў, дагэтуль актуальныя і нерэалізаваныя.**



Малады патрыёт, Антон Луцкевіч выйшаў з беларускай шляхты. Нарадзіўся ён 29 студзеня 1884 года. Разам са сваім старэйшым братам Іванам Луцкевічам вучыўся ў Пецярбурзе, дзе і пазнаёміўся з Вацлавам Іваноўскім. Разам яны стаялі ля вытокаў стварэння Беларускай Рэвалюцыйнай Грамады (з канца 1904 г. Беларуская Сацыялістычная Грамада).

За шляхетныя манеры вучні Віленскай беларускай гімназіі празвалі Антона Луцкевіча Версальчыкам.

Антон Луцкевіч быў публіцыстам, літаратурным крытыкам, гісторыкам, педагогам. Пісаў па-беларуску, па-польску, па-руску, па-французску і па-нямецку. Перакладаў з старажытнагрэцкай і лацінскай. Ён адрэдагаваў першы поўны пераклад Новага Запавету з Псалмамі на беларускую. Асобныя кнігі Новага Запавету ён пераклаў сам. Зробленыя і адрэдагаваныя Антонам Луцкевічам пераклады працяглы час выкарыстоўваліся рыма- і грэка-католікамі Беларусі. Перакладчык новазапаветных кніг, сам Антон Луцкевіч быў атэістам і марксістам. Пра гэта ён сказаў публічна прад польскім судом у 1928 годзе.

Як рэдактар беларускіх газет, Антон Луцкевіч спрыяў станаўленню таленту не аднаго беларускага пісьменніка. Вядомае яго сяброўства і супрацоўніцтва з Максімам Багдановічам, Наталляй Арсенневай, Уладзімірам Жылкам. Ён першы заўважыў талент Уладзіміра Дубоўкі. Ухвальна пісаў пра Максіма Танка. Яго характарыстыкі Максіма Багдановіча (пясняр чыстай красы) і Янкі Купалы (прарок Адраджэння) сталі ў нашым літаратуразнаўстве агульнапрынятымі.

Надзелены талентам аналітыка, Антон Луцкевіч у 1917 г. не сумняваўся, што да ўлады ў Расіі могуць прыйсці радыкалы. У 1920-м ён пісаў пра непазбежнасць Другой сусветнай вайны, а таксама, што Польшча праз сваю нацыянал-шавіністычную палітыку будзе ў гэтай вайне раздушана Расіяй і Германіяй.

Каб Польшча пазбегла краху, магла супрацьстаяць Германіі і Расіі, Антон Луцкевіч настойліва раіў польскаму палітычнаму класу выбудаваць сяброўскія адносіны з беларусамі, украінцамі, літоўцамі, чэхамі. Аднак голас яго не быў пачуты. І толькі пасля Другой сусветнай вайны польскія інтэлектуалы, якія гуртаваліся вакол парыжскага часопіса "Kultura", прыйшлі да высновы, што існаванне самастойных і дэмакратычных Беларусі, Літвы і Украіны адпавядае польскім інтарэсам.

Антон Луцкевіч разам з Аляксандрам Чарвяковым і Усеваладам Ігнатоўскім уваходзіў у 1920-я гг. у своеасаблівы трыумвірат, які фармуляваў беларускую палітыку. Дзякуючы ў першую чаргу Луцкевічу, Ігнатоўскаму і Чарвякову адбылася беларусізацыя ў 1923–1929 гг., у склад Беларусі была вернута немалая частка яе віцебскіх, магілёўскіх, мінскіх і смаленскіх земляў і на ўсходзе Беларусь набыла сучасныя контуры.

У 1922 г. Антон Луцкевіч узначальваў Беларускі цэнтральны выбарчы камітэт. У значнай меры дзякуючы яго працы заходнія беларусы (нечакана для Пілсудскага ды іншых) занялі дэпутацкія і і сенатарскія крэслы ў польскім парламенце.

Луцкевіч першы выказаў ідэю аб стварэнні ў Заходняй Беларусі масавай арганізацыі сялян і рабочых. Многія яго ідэі былі пакладзены ў аснову праграмы 100-тысячнай Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады.

Аўтар Акту 25 Сакавіка, Антон Луцкевіч у пэўнай меры апярэджваў свой час. Іншы раз даводзіцца чуць, што БНР не магла рэалізавацца з прычыны слабасці беларускага руху. Бадай, кожны згодзіцца, што украінскі рух у той час быў значна мацнейшы за беларускі. Аднак і УНР таксама не замацавалася на мапе Еўропы. Не апошнюю ролю тут адыгрывала пазіцыя не толькі Расіі, але і заходніх дэмакратый, якія зрабілі стаўку на Польшчу, Чэхію і Сербію. Так паўсталі шматнацыянальныя Польская Рэспубліка, Чэхаславакія і Каралеўства сербаў, харватаў і славенцаў (з 1929 г. Югаславія). Акрамя таго, паводле дамоўленасці паміж Вялікабрытаніяй і Францыяй краіны Латвія, Літва, Эстонія трапілі ў сферу ўплыву Злучанага Каралеўства, а Беларусь з Украінай – у сферу ўплыву Францыі. Францыя ж была самым вялікім крэдыторым царскай Расіі. І французскі ўрад спадзяваўся, што яму ўдасца дамовіцца з бальшавікамі і вярнуць даўгі. Таму не ў інтарэсах Францыі быў выхад з-пад улады Масквы Беларусі і Украіны. Французскі прэм'ер-міністр Жорж Клемансо, калі яму паказалі на мапе, дзе павінна быць БНР, стукнуў па гэтай мапе кулаком і сказаў: "Тут будзе Расія". У 1991 г. заходнія дэмакратыі ўжо інакш глядзелі на краіны Цэнтральна-Усходняй Еўропы.

■ Станіслаў Дубовік

# РЫГОР КАСТУСЁЎ: У ПРАЦЫ БЕЛАРУСКІХ ДЗЕЯЧОЎ ЧАСОЎ БНР НАЙБОЛЬШ ІМПАНУЕ ІХ АПЕРАТЫЎНАСЦЬ

**Заснавальнікі БНР першымі змаглі паказаць і даказаць прагу беларускага народа да стварэння сваёй дзяржавы, распавёў у інтэрвью "Нашаму Магілёву" намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў.**



**Рыгор Андрэевіч, калі вы даведаліся пра падзеі 25 сакавіка 1918 года ў Мінску і ўсвядомілі важнасць іх для Беларусі?**

Першыя расповеды аб тых падзеях я пачуў яшчэ у маленстве, калі хадзіў у малодшыя школьныя класы. З успамінаў майго дзядулі (па лініі маці), што ён распавядаў аб службе ў Чырвонай арміі. Ён быў прызваны ў 1918 годзе, і, як расказваў, што ў той час ён разам са сваімі саслужыўцамі-беларусамі збіраліся асобна ад іншых і абмяркоўвалі падзеі, што адбываліся на Радзіме. Найбольш станоўча яны на той час успрымалі інфармацыю аб тым, што Беларусь будзе існаваць асобна ад Расіі.

Надалей, ужо толькі ў больш старэйшых класах, я пачаў усведамляць, што гэта былі за падзеі. У школьных савецкіх падручніках аб часах стварэння БНР падавалася толькі негатыўная інфармацыя і ў вельмі невялікіх аб'ёмах. Але ўжо на той час я разумеў, што гэта былі спробы беларусаў на стварэнне ўласнай дзяржавы.

Поўнае ўсведамленне важнасці тых падзей у Мінску, ды і не толькі ў Мінску, у мяне склалася пасля прызыву ў Савецкае войска. У 1975 г., калі мне споўнілася 18 год, я быў прызваны на службу. Так склалася, што служыў я ў войсках сувязі, ды пры гэтым нёс дзяжурствы на радыёстанцыі штаба палка, якая забяспечвала сувязь з радыёстанцыяй штаба вайсковай акругі. Застаючыся на начное дзяжурства, я меў магчымасць карыстацца рэзервовым прыёмнікам і настройваў яго на хвалі "варожых галасоў", як нам сцвярджала ў той час савецкая прапаганда. Вайсковая тэхніка забяспечвала прыём любых радыёстанцыяў без усялякіх перашкодаў. Вось за гэтыя два гады я даведаўся ўсе падрабязнасці тых падзеяў, пачуў тое, што ад нас упарта хавала савецкая ўлада.

**Чаму лічыце гэтую дату важнай як для беларускай гісторыі, так і для беларускай сучаснасці?**

Падзеі 1918 года – гэта была чарговая, не зусім удалая спроба беларускага народа на стварэнне сваёй дзяржавы. Але можна адназначна сказаць, што без гэтай спробы не было бы сучаснай незалежнай Беларусі.

**Што з тых дакументаў, датычных абвяшчэння незалежнасці Беларусі, вам найбольш імпануе?**

Я не стаў бы выдзяляць асобную важкасць якога-небудзь дакумента тых часоў. Усе яны нясуць вялікую гістарычную нагрузку. І, менавіта, прыняццё гэтых дакументаў, іх наяўнасць у нашай сучаснасці нясе перасцярогу ад памкненняў ліквідавання незалежнасці нашай краіны, уключэння яе ў склад расійскай імперыі.

**Ці маглі б сучасныя палітыкі павучыцца нечаму ў беларускіх дзеячоў часоў БНР?**

У працы беларускіх дзеячоў часоў БНР мне найбольш імпануе аператыўнасць у ацэнцы сітуацыі і іх здольнасць у кароткі час арганізаваць працэс па наданню легітымнасці існавання беларускай дзяржавы. Толькі дзякуючы такой працы, нават бальшавікі вымушаны былі прызнаць існаванне беларускай нацыі, і, як вынік, пайсці на стварэнне БССР.

Дзякуючы самаахвярнасці, заснавальнікі БНР, нягледзечы на смяротныя пагрозы, захавалі для нашчадкаў дакументы тых часоў, як гістарычнае падцвярджэнне волі беларускага народа на стварэнне сваёй дзяржавы. А існаванне да гэтай пары Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з'яўляецца сведчаннем для ўсяго свету аб памкненнях беларусаў да НЕЗАЛЕЖНАСЦІ.

**На Ваш погляд, чаму 25 Сакавіка дагэтуль не з'яўляецца беларускім дзяржаўным святам?**

Нягледзечы на развал Савецкага Саюзу і існаванне незалежнай беларускай дзяржавы, Беларусь усё яшчэ застаецца тым савецкім астраўком, дзе да гэтай пары пануе прарасійскі, праімперскі рэжым, які імкнецца вытравіць з памяці людзей гістарычныя факты аб памкненнях беларусаў да незалежнасці. Дзень 25 сакавіка 1918 года ў шэрагу з іншымі датамі 19-га, 18-га стагоддзяў і з'яўляецца сведчаннем такіх памкненняў. Таму антыбеларускім рэжымам і робяцца ўсялякія захады, каб грамадзяне краіны пазабыліся аб тых часах.

Толькі з ліквідацыяй рэжыму і стварэннем у Беларусі сапраўдных беларускіх уладных структураў, 25 Сакавіка стане ў нашай краіне дзяржаўным СВЯТАМ.

■ Ядвіга Люнтова

# БЕЛАРУСКІЯ ЎЛАДЫ ЛІЧАЦЬ ПРАВАПАРУШЭННЕМ ПРАСЛАЎЛЕННЕ БНР

**Есць нешта сімвалічнае ў тым, што першы выпадак прызнання Камітэтам па правах чалавека ААН парушэння грамадзянскіх правоў у Беларусі тычыўся менавіта абвяшчэння незалежнасці БНР.**

Нягледзячы на агульна прызнаны факт, што Беларуская Народная Рэспубліка была першай спробай уласнабеларускага дзяржаўнага ўтварэння, дзякуючы якой паўстала БССР, а потым і РБ, для лукашэнкаўскай улады праслаўленне БНР застаецца крамолай, вартай пакарання.

У няблізкім ужо 1997 годзе, 23 сакавіка, у цэнтры Магілёва адзін з мясцовых жыхароў, сябра Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Л. распаўсюджваў улёткі, прысвечаныя абвяшчэнню незалежнасці БНР. "25 сакавіка 1918 года ў Мінску была абвешчана дзяржаўная незалежнасць Беларусі. Нягледзячы на тое, што гаспадарыўшыя на той час немецкія акупанты пад пагрозай зброі разагналі Раду і Народны Сакратарыят, Беларускі ўрад не склаў рук і працягваў барацьбу за незалежнасць", - гаварылася ва ўлётцы. Магілёўскія сацыял-дэмакраты заклікалі браць прыклад з герояў, палеглых за свабоду і незалежнасць Бацькаўшчыны. "Хай іх ахвярнасць стане для нас узорам у барацьбе за незалежную Беларусь!", - адзначалі сацыял-дэмакраты. Але такія патрыятычныя заклікі аказаліся не даспадобы міліцыі, якая невядома чаму лічыць сябе беларускай. Чалавек быў затрыманы, на яго склалі пратакол, а праз пару тыдняй адміністрацыйная камісія Цэнтральнага раёна (быў такі ў Магілеве да 2003 года) аштрафавала яго на 390 тысяч рублёў. Скаргі ва ўсе судовя інстанцыі плёну не далі – ўсе яны лічылі, што грамадзянін Л. слушна быў пакараны – нельга, маўляў, распаўсюджваць патрыятычныя адозвы без выхадных дадзеных, нягледзячы на тое, што гэтыя дадзеныя былі надрукаваныя на ўлётцы.

Грамадзяніну нічога не заставалася, як звярнуцца ў Камітэт па правах чалавека ААН. І той, грунтуючыся на міжнародных дамоўленасцях Беларусі, якія яна абавязалася выконваць, прызнаў, што пакаралі беларускія ўлады свайго грамадзяніна незаконна і рэкамендаваў вярнуць тому грошы і больш такіх парушэнняў чалавечых правоў не рабіць. Гэта стала першым падобным выпадкам у беларускай гісторыі.

Але цяперашняя беларуская ўлада пляваць хацела на тое, што кажа ААН.

Прайшло ўжо 14 гадоў з таго моманту, як Камітэт ААН прыняў свае рэкамендацыі да Беларусі адносна выпадку ў Магілёве. Ён накіраваў іх у беларускі МЗС. Спачатку ўлады казалі, што не маюць механізму імплементацыі меркаванняў Камітэта, а потым увогуле заявілі, што гэта рэкамендацыі і няма абавязку іх выконваць.

Зразумела, рэкамендацыі яны таму і рэкамендацыі, што выкананне іх залежыць ад добрай волі таго, хто пагадзіўся да іх прыслухоўвацца. Гэта наўпрост паказвае, ці паважае дзяржава падпісаныя ёй міжнародныя акты. Цяперашняя беларуская ўлада, як аказалася, пляваць хацела не толькі на гэтыя акты, у прыватнасці Пакт аб грамадзянскіх і палітычных правах, але і на ўласны подпіс. Пра правы грамадзян такой краіны – у дадзеным выпадку Рэспублікі Беларусь, нават і ўзгадваць няма сэнсу. Таму і атрымліваецца, што раздача магілёўцам у 2007 годзе ўлетак з інфармацыяй аб БНР застаецца правапарушэннем.

■ Якуб Корсак

# БЕЛАРУСЬ ЯШЧЭ ЧАКАЕ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ РЭВАЛЮЦЫЯ

**Пра гэта сцвярджае адзін з заснавальнікаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Грамады), а таксама гісторык Анатоль Сідарэвіч.**



Гісторыя ідзе так: два крокі наперад – крок назад.

У 1918 годзе беларусы здолелі ўчыніць тры крокі: 1) заснаваць Беларускую Народную Рэспубліку і заявіць аб выхадзе сваёй краіны са складу Расіі, 2) абвясціць Беларусь незалежнай краінай, 3) абвясціць Беларускую Народную Рэспубліку дэмакратычнай дзяржавай.

Да пачатку 1919 г. Расія вымушана была згадзіцца з тым, што Беларусь павінна жыць асобна ад яе. Аднак, даўшы Беларусі тэрытарыяльнае самакіраванне і нават абвясціўшы яе раўнапраўнай з Расіяй савецкай рэспублікай, Масква не дала нашай краіне фактычнай незалежнасці. Замест дэмакратычнай канстытуцыі БНР была ўведзена савецкая – з непадзельнай уладай бальшавіцкай партыі і дыктатурай партыйнай бюракратыі. Так былі ўчынены два крокі назад.

На хвалі дэмакратычнай рэвалюцыі 1989–1991 гг. у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе Беларусь стала і юрыдычна, і фактычна незалежнай дзяржавай. Тады ж былі закладзены асновы яе пераўтварэння ў дэмакратычную дзяржаву. Думалася, што Акт 25 Сакавіка здзейсніцца ў поўным аб'ёме. Аднак беларускі народ не даспеў да дэмакратыі і пажадаў "цвёрдай рукі". У 1994 г. на прэзідэнцкіх выбарах быў здзейснены крок назад. У канцы 1996 г. у краіне ўсталявалася дыктатура былой партыйна-камсамольскай і гаспадарчай наменклатуры. Беларусь стала паліцэйскай дзяржавай.

У адпаведнасці з логікай гісторыі (а логіка вызначаецца формулай: ад несвабоды да свабоды, ад свабоды меншай да свабоды большай) Беларусі наканавана здзейніць Акт 25 Сакавіка цалкам, г. зн. стаць дэмакратычнай дзяржавай. Пытанне ў тэрмінах. А таксама ў тым, у якой форме (мірнай ці немірнай) адбудзецца дэмакратычная рэвалюцыя.

Надрукавана на ксераксе. Наклад 299 ас.
Адрас рэдакцыі: Магілёў, вул. Ленінская, 29. Распаўсюджваецца бясплатна.
gazetanm.eu@gmail.com

Галоўны рэдактар - Вітольд Няўрыда